*Двума абзацамі*

## Вернуты льготы донарам

**У грамадстве, якое будавала камунізм, донарам выплачвалася сярэдняя зарплата за дзень здачы крыві і даваўся дзень адпачынку.**

Названыя вышэй ільготы дзесьці былі згубіліся. Спецыяльнай пастановай урад іх вярнуў. Кампенсацыя затрат наймальнікам на аснове прадстаўленых імі рахункаў са спісамі донараў будзе праводзіцца штомесячна.

## Беларускі лазер будзе лячыць рак

**Пры Беларускім дзяржаўным універсітэце на правах навукова-даследчага інстытута ствараецца Міжнародны лазерны цэнтр.**

Адным з напрамкаў яго работы з'яўляецца вывучэнне ўздзеяння лазернага выпраменьвання на мікраарганізмы з мэтай распрацоўкі эфектыўных метадаў лячэння некаторых захворванняў чалавека і жывёл, стварэнне лазераў для правядзення фотадынамічнай тэрапіі і лячэння ракавых захворванняў.

Плануецца супрацоўніцтва з аднайменнай міжнароднай арганізацыяй краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, удзел у выкананні навуковых праграм краін Еўрапейскага супольніцтва і Нацыянальнага навуковага фонду Злучаных Штатаў Амерыкі.

## Ашчадны банк нас не пакрыўдзіць

**Яго кіраўніцтва ў сувязі з інфляцыяй прыняло рашэнне аб павышэнні з 1 мая 1993 года працэнтных ставак па ўкладах грамадзян.**

Яны розныя. Тыя, хто паклаў грошы "на кніжку" да запатрабавання, на прад'яўнічы рахунак, чэкавы дэпазіт, і тыя, хто не выканаў умовы зберажэння па іншых відах укладаў, могуць разлічваць на 20 працэнтаў. Грамадзяне, якія паклалі грошы на тэрмін ад 1 года да 3-х, маюць права на 40 працэнтаў гадавых, ад 3 да 5 гадоў — на 50 і вышэй 5 гадоў — 60 працэнтаў.

## Для тых, хто застаўся без працы

**Дзяржаўны камітэт па працы нядаўна выдаў праграму занятасці насельніцтва на 1993 год, а ўрад яе ўхваліў.**

Прадугледжваюцца падрыхтоўка і перападрыхтоўка незанятага насельніцтва, аказанне дапамогі беспрацоўным у пошуках працаўладкавання, матэрыяльная падтрымка.

Для грамадзян, няздольных на адпаведных умовах канкурыраваць на рынку працы, арганізацыямі і прадпрыемствамі будуць браніравацца і стварацца рабочыя месцы.

**Рыгор ДРАЗДОЎСКІ.**

*Факт для роздуму*

## Які мужчына заўтрашняга дня?

**Свет загаварыў аб новай ролі мужчыны.**

І, калі менавіта гэту тэму прапанаваў нямецкі бок для сумеснага беларуска-германскага навуковага семінара, у нас паціснулі плячыма: "А навошта?" Мабыць, таму на яго не прыйшлі работнікі Вярхоўнага Савета і Саўміна, не з'явілася прэса... Не цікава. А між тым з Германіі прыехала аж сорак чалавек. І варта было паслухаць хоць адзін даклад з нямецкага боку, каб пераканацца, як сур'ёзна яны ставяцца да такой праблемы.

Як вы думаеце, які мужчына заўтрашняга дня? Той, што з падручнікам. У Германіі ўжо ёсць штогадовы вучэбны адпачынак для работнікаў. Аплачвае яго дзяржава. Амерыка ўзялася за падключэнне да камп'ютэрнага банка даных усяго свету дамашніх камп'ютэраў школьнікаў. Словам, любы хлопчык ЗША вечарам зможа даведацца, што адбылося сёння ў свеце ў любой галіне чалавечай дзейнасці...

Шкада, што ўсё гэта для нас абсалютна не цікава. А вось немцы запрасілі дакладчыкаў нашага Нацыянальнага цэнтра стратэгічных даследаванняў да сябе на такі ж семінар.

**Іван СЯМЁНАЎ.**

## *Этот день мы приближали как могли...*

1944 г. Первый Белорусский фронт. В наступлении.

Фото Геннадия САНЬКО.



1945 г. Апрель. Бой на окраине Кенигсберга.

Фото из архива ИТАР—ТАСС.



*Вяртаючыся да надрукаванага*

# Пальчатка кінута і спікеру, і прэм'еру!

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ**

У журналісцкай практыцы бываюць тэмы настолькі цяжкія, што часам думаеш: лепш бы разгрузіць які вагон з цукрам ці цэментам, чым выводзіць гэтыя радкі. Не таму, што пісаць цяжка. Таму, што бачыш безвыніковасць сваёй працы. Бачыш, як людзі, надзеленыя рознымі паўнамоцтвамі і ўладай, робяць усё магчымае і немагчымае, каб толькі ўтрымаць гэтую самую ўладу, толькі не аддаць тыя паўнамоцтвы і панаваць, панаваць, панаваць... І не важна, што яго абвінавачваюць і лічаць несумленным многія навокал, не важна, што часам і вышэйстаячыя начальнікі патрабуюць яго пакараць. Галоўнае, побач з ім такія ж чыноўнікі, якія сцяной стаяць за свайго таварыша, якія гатовы дваццаць пяць разоў перавярнуць любы закон ці пастанову, толькі б не даць яго ў крыўду.

Пішу гэтыя радкі пасля пасяджэння Мінскага аблвыканкама, на якім разглядаўся добра вядомы ўсім нашым чытачам "барысаўскі канфлікт". У якіх толькі газетах не пісалася аб непрыглядных справах, што творацца ў цудоўным Барысаве, куды толькі не звярталіся пакрыўджаныя жыхары горада і некаторыя дэпутаты гарсавета! Справа дайшла да таго, што цэлы стос лістоў-скаргаў дайшоў аж да Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча. І ён мінулай восенню наведаў Барысаў, сваімі вачыма паглядзеў, у якіх жахлівых умовах жывуць адны барысаўчане і якія цуда-палацы будуюць сабе другія, тыя, хто павінен быў у першую чаргу клапаціцца пра свой родны горад. І звярнуўся лідэр дзяржавы да дэпутатаў Барысаўскага гарсавета з адкрытым лістом: паважаныя сябры, калегі, вас выбраў народ, навядзіце парадак у сваім горадзе! Але ўбачылася многім барысаўскім чыноўнікам з іх недабудаваных цуда-палацаў у словах Старшыні Вярхоўнага Савета не жаданне дапамагчы простым людзям, а толькі эгаістычнае імкненне нажыць уласны палітычны капітал. І сабраліся на сесію барысаўскія дэпутаты, але не для таго, каб абмеркаваць дзейнасць старшыні гарвыканкама і некаторых яго падначаленых, каб нейкім чынам змяніць сітуацыю ў горадзе, а каб даць бой Старшыні Вярхоўнага Савета, які пасмеў ад іх нечага патрабаваць.

Але ж Станіслаў Шушкевіч — гэта вам не жыхары сумна вядомага барака па вуліцы Герцэна! Яму нават усёмагутны намеснік старшыні гарвыканкама С.Трусаў у вочы не скажа: будзеш жаліцца — згнієш тут! І паехалі ў Барысаў адна за адной з праверкамі выкладзеных у скаргах фактаў камісіі розных ведамстваў і міністэрстваў. Якія ж вывады яны зрабілі?

Перада мною стос даведак, дакладных запісак. Іх перадрукоўка заняла б увесь наш сённяшні нумар. Таму працытую толькі вытрымкі з выніковага дакумента, які падпісалі адказныя работнікі Сакратарыята Вярхоўнага Савета, Савета Міністраў, Кантрольнай палаты, МУС, Пракуратуры і іншых ведамстваў:

"На працягу апошніх двух гадоў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь ад шэрага народных дэпутатаў Барысаўскага гарадскога Савета і груп грамадзян працягваюць паступаць пісьмы і заявы, у якіх яны ўказваюць на недахопы ў рабоце органаў дзяржаўнай улады і кіравання горада, асобных службовых асоб па вырашэнню многіх пытанняў мясцовага значэння.

У выніку праверкі з выездам на месца фактаў, выкладзеных заяўнікамі, аналізу матэрыялаў сесіі гарадскога Савета, пасяджэнняў яго прэзідыума і выканкама, асабістых гутарак з дэпутатамі неабходна зрабіць вывад, што кіраўнікі прадстаўнічай і выканаўчай улад горада не заўсёды ўважліва адносіліся да разгляду пісем і заяў грамадзян, хваравіта рэагавалі на справядлівыя заўвагі і запыты народных выбраннікаў, не выкарыстоўвалі для вырашэння складаных сацыяльных праблем магчымасцей пастаянных і часовых дэпутацкіх камісій, а часта і самі станавіліся на шлях парушэння дзеючага заканадаўства.

Рашэннем гарвыканкама, без згоды ўласніка — гарадскога Савета, здадзена ў арэнду маёмасць трох прадпрыемстваў камунальнай уласнасці — гарпрамгандлю, трэста сталовых і рэстаранаў, салона-цырульні N 1. Пры гэтым не было захавана патрабаванне пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь N 256 ад 28 чэрвеня 1991 года, якой не дапускаецца здача ў арэнду дзяржаўнай маёмасці ў цэлым гандлёвых арганізацый, трэстаў сталовых і рэстаранаў. Пры ацэнцы кошту маёмасці, якая перадавалася ў арэнду, інвентарызацыйныя камісіі з удзелам арэндадаўцаў не ствараліся, у выніку пераразлік яе кошту праведзены па заніжаных каэфіцыентах.

Або іншы прыклад. Гарвыканкам 18 лютага 1992 года зарэгістраваў барысаўскае арэнднае гандлёва-вытворчае аб'яднанне "Веста". У гэты ж дзень ад яго імя старшыня гарадскога Савета С.Шыдлоўскі, без разгляду пытання на сесіі і не маючы на тое паўнамоцтваў, заключыў з АГВА "Веста" арэндны дагавор, у адпаведнасці з якім ва ўласнасць арэнднага калектыву перададзена больш як 60 працэнтаў асноўных фондаў на суму 3,2 мільёна рублёў, а таксама больш як 50 працэнтаў абаротных сродкаў на суму 9,5 мільёна рублёў. У суме бязвыплатна перададзена маёмасць 26 аб'ектаў — будынкаў магазінаў, складоў, павільёнаў з прайшоўшым тэрмінам амартызацыі, уся маёмасць сацыяльна-бытавой сферы: тэлевізары, халадзільнікі, піяніна, мэблевыя гарнітуры, магнітолы, магнітафоны, відэамагнітафоны і г.д. Перададзены таксама ўсе асноўныя фонды, набытыя за перыяд работы з 1987 па 1992 год ва ўмовах самафінансавання, хоць і гэтая частка маёмасці таксама з'яўляецца камунальнай уласнасцю.

Актам бязвыплатнай перадачы арэнднаму прадпрыемству камунальнай уласнасці выканкам умяшаўся ў сферу паўнамоцтваў гарадскога Савета як уласніка гэтай маёмасці. Рашэнне выканкама ад 18 лютага 1992 года супярэчыць артыкулу 46 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь", артыкулу 28 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь", а таксама часткі чацвёртай артыкула 4 і артыкулу 91 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб арэндзе".

Праверкай устаноўлена, што ў горадзе з 278 прадпрыемстваў недзяржаўнай формы ўласнасці, зарэгістраваных па стану на 15 лютага 1992 года Барысаўскім гарвыканкамам, у дваццаці з іх выступілі заснавальнікамі дзяржаўныя структуры, а ў пяці — гарвыканкам і яго падраздзяленні. Нягледзячы на тое, што пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь N 711 ад 25 лістапада 1992 года органам кіравання забаронена ўваходзіць у камерцыйныя структуры і прапанавана выйсці з ліку іх заснавальнікаў, па стану на 24 лютага 1993 года гарвыканкамам гэта не было зроблена. Як факт трэба адзначыць і тое, што дачка старшыні гарсавета С.Шыдлоўскага І.Закрэўская ўваходзіць у склад трох камерцыйных структур, зарэгістраваных Барысаўскім гарвыканкамам.

У горадзе дапускаюцца грубыя парушэнні парадку ўліку і размеркавання зямельных участкаў пад індывідуальнае будаўніцтва, у тым ліку і грамадзянам, якія карыстаюцца льготамі. Вынікі праверкі пацвярджаюць абгрунтаванасць заяў дэпутатаў аб тым, што пад індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва асобным грамадзянам з ліку службовых асоб выдзяляюцца зямельныя ўчасткі без чаргі і ў больш прэстыжных месцах. Так, рашэннем гарвыканкама ад 24 лістапада 1992 года выдзелены зямельны ўчастак намесніку дырэктара па кадрах і быту завода "Аўтагідраўзмацняльнік" В.Саковічу, які падаў заяву толькі за 10 дзён да гэтага, хоць незадаволенымі засталіся заявы 236 грамадзян, у тым ліку інвалідаў, якія стаялі на чарзе перад ім. У 1993 годзе ў змяненне раней прынятага рашэння В.Саковічу выдзелены новы ўчастак у больш прэстыжным месцы горада.

У такім жа парадку быў прадастаўлены зямельны ўчастак галоўнаму інжынеру Барысаўскага прадпрыемства электрасетак М.Бяспальку. Зямельны ўчастак ён атрымаў праз пяць дзён з дня падачы заявы, пры гэтым па сканчэнні трох месяцаў па рашэнню выканкама замяніў яго на другі, размешчаны ў межах гарадскога пляжа.

Нярэдкія выпадкі, калі ўчасткі для індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва афармляюцца рашэннямі выканкама на дзяцей кіраўнікоў — студэнтаў вышэйшых і навучэнцаў сярэдніх навучальных устаноў дзённага аддзялення. Праз чатыры дні пасля падачы заявы атрымаў зямельны ўчастак студэнт 5-га курса Беларускай політэхнічнай акадэміі А.Марцінкевіч, які з'яўляецца сынам дэпутата гарсавета А.Марцінкевіча, начальніка БУ-153. На шосты дзень пасля падачы заявы атрымаў зямельны ўчастак і студэнт 4-га курса Беларускай політэхнічнай акадэміі А.Капульцэвіч, сын намесніка дырэктара па кадрах і быту завода БАТЭ В.Капульцэвіча, таксама дэпутата гарсавета. Раней іншых грамадзян, якія стаяць на чарзе, атрымаў зямельны ўчастак і другі сын Капульцэвіча. Абодва яны нежанатыя.

Устаноўлены сур'ёзныя парушэнні жыллёвага заканадаўства пры размеркаванні кватэр. Асабістую нясціпласць пры атрыманні трохпакаёвай кватэры на сям'ю з чатырох чалавек праявіў галоўны рэдактар газеты "Адраджэнне" А.Алпатаў. Не без садзейнічання старшыні гарсавета С.Шыдлоўскага атрымаў у лістападзе 1991 года двухпакаёвую кватэру яго зяць Г.Закрэўскі, які працаваў у аддзеле ўнутраных спраў з верасня 1990 г. па лістапад 1992 года.

Больш таго, неабходна падкрэсліць, што Г.Закрэўскі да гэтага жыў у аднапакаёвай кааператыўнай кватэры, з якой ён выпісаўся толькі праз год — 17 кастрычніка 1992 года. Але яшчэ 9 студзеня 1992 года па прапанове С.Шыдлоўскага, парушаючы артыкул 46 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь, у дадзеную кватэру быў прапісаны Н.Вячаславаў з жонкай з г.Панявежыса (Літва), а потым і афармлены акт продажу ім гэтай кватэры.

Нягледзячы на неаднаразовыя звароты дэпутатаў, грамадзян у розныя інстанцыі аб парушэнні законнасці і прынцыпу сацыяльнай справядлівасці пры размеркаванні жылля, гарвыканкамам 19 студзеня 1993 года, праз месяц пасля падачы заявы, выдзелена двухпакаёвая кватэра на сям'ю з двух чалавек намесніку старшыні гарвыканкама Г.Кучук.

У працэсе праверкі ўскрыты таксама факты невыканання палажэнняў Закона аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы.

Нельга пагадзіцца з пазіцыяй, занятай старшынёй гарадскога Савета С.Шыдлоўскім у ацэнцы ім звароту Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Словы ў дакладзе на сесіі ў снежні 1992 года адносна гэтага звароту як "папулісцкага, які заклікае да пераваротy ў горадзе", выключаныя ў далейшым з пратакола, але якія захаваліся ў аўдыёзапісе, сведчаць аб непаслядоўнасці старшыні гарсавета і нежаданні несці адказнасць за свае выказванні як службовай асобы.

На падставе вышэйвыкладзенага неабходна зрабіць вывад, што неаднаразовыя звароты групы народных дэпутатаў Барысаўскага гарадскога Савета і грамадзян у дзяржаўныя органы ў большасці сваёй былі абгрунтаванымі, а факты, выкладзеныя імі, знайшлі пацвярджэнне. Гарадскім Саветам народных дэпутатаў і яго органамі допушчаны сур'ёзныя парушэнні дзеючага заканадаўства. З боку старшыні гарадскога Савета С.Шыдлоўскага і шэрага службовых асоб маюць месца выпадкі асабістай нясціпласці.

Лічылі б мэтазгодным даручыць:

Мінскаму абласному Савету народных дэпутатаў у адпаведнасці з артыкуламі 8 і 18 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь" разгледзець дзейнасць Барысаўскага гарадскога Савета па забеспячэнню законнасці ў ажыццяўленні мясцовага самакіравання, а таксама даць ацэнку неправамерным дзеянням старшыні гарадскога Савета С.Шыдлоўскага і іншых службовых асоб;

Пракуратуры, Кантрольнай палаце, Міністэрству ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь давывучыць выкананне сваіх уласных рашэнняў і даручэнняў па ўстараненню Барысаўскім гарсаветам і яго органамі, службовымі асобамі парушэнняў заканадаўства, якія мелі месца, у частцы раздзяржаўлення і прыватызацыі, выдзялення кватэр і зямельных участкаў пад жылую забудову, умацавання дысцыпліны і парадку па барацьбе са злачыннасцю і правапарушэннямі".

Чатырнаццаць адказных работнікаў падпісаліся пад гэтым дакументам!

Мы не маем магчымасці працытаваць, але такія даведкі даслалі ў Вярхоўны Савет таксама старшыня Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь В.Саковіч, Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь В.Шаладонаў, міністр унутраных спраў Рэспублікі Беларусь У.Ягораў, іншыя кіраўнікі адпаведных ведамстваў. І што ж мы маем ў рэшце рэшт?

Паколькі амаль усе недахопы ў дзейнасці структур выканаўчай улады былі выяўлены, 7 красавіка гэтага года Станіслаў Шушкевіч накіраваў вынікі праверак старшыні Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў А.Цішкевічу і папрасіў навесці парадак у падпарадкаваных яму і абласному Савету народных дэпутатаў структурах.

24 красавіка адбылося пасяджэнне Мінскага аблвыканкама. Я на ім прысутнічаў і бачыў, як нялёгка было ісці на трыбуну С.Шыдлоўскаму, і мне па-чалавечы было яго шкада. Але калі абмеркаванне сітуацыі ў Барысаве звялося да таго, што "ўсе мы працуем з недасканалымі законамі, што кожны можа памыліцца" і ў рэшце рэшт С.Шыдлоўскаму было толькі ўказана на маючыя месца недахопы, яго намесніку Г.Кучук аб'яўлена вымова, а з С.Трусавым вырашана разабрацца пазней — ён якраз у гэты час захварэў, — то мне стала не па сабе.

Божа, у які ж мы час жывём! Не, я не хачу прылюднага пакарання С.Шыдлоўскага ці С.Трусава, але, прабачце, калі дзесяткі адказных работнікаў праводзяць праверкі і вызначаюць, што законы парушаны і там і тут, што выяўлены недахопы і там і тут, а з парушальнікаў ўсё сыходзіць, нібы з гусі вада, то я не магу зразумець такую ўладу.

Гэта, браткі, ужо абсалютны параліч улады пры поўнай кругавой паруцы чыноўнікаў, якія трымаюць гэтую ўладу. І рашэнне Мінскага аблвыканкама — выклік усяму нашаму грамадству, адкрыты заклік да ўсіх нядобрасумленных чыноўнікаў: гуляй, братва, пакуль ёсць магчымасць! Набівай кішэні, рыхтуй сабе і сваім дзецям бясбедную будучыню!

Я не ведаю, якія захады зараз зробіць Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч. Я бачу адно: і яму, і Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Вячаславу Кебічу кінута пальчатка. Калі кіраўнікі заканадаўчай і выканаўчай улад Беларусі не могуць справіцца нават са сваімі прамымі падначаленымі, з парушальнікамі закона, дык якую ж выснову можа ў рэшце рэшт зрабіць народ аб аўтарытэце сваіх вышэйшых лідэраў?

СПЫТАЙЦЕ / СПРОСИТЕ ЮРУ

## Сбербанк уполномочен заявить

*Сбербанк Беларуси сообщал, что с 1 мая можно получить индексацию по вкладам, находившимся в учреждениях Сбербанка на 1 января 1991 года, в том числе и закрытым. А мне в местном отделении сказали, что индексация по закрытым вкладам будет выплачиваться через месяц-два.*

***Анатолий ГОЛОВАЧЕВ.***

*Брестская область.*

Никто срока выплаты индексации по закрытым вкладам не переносил. Как сказал мне по телефону Александр Баркун, начальник управления сбережений, госзаймов и ценных бумаг Сбербанка Беларуси, в случае отказа в выплате денег по индексации звоните к нему в управление по тел.: (8-0172) 20-78-25, 26-43-03.

## Не женитесь, хлопцы, рано...

*Хочу развестись с женой, но знающие люди говорят, пока моему ребенку не исполнится год, без согласия жены суд нас не разведет. Неужели это правда?*

***Н.Н.***

*Гомельская область.*

Истинно так и записано в Кодексе законов о браке и семье. А вот судебная практика говорит, что зачастую бракоразводный процесс растягивается еще года на два... Но если добьетесь согласия жены, то оставят холостым хоть сейчас.

## Курсанта просто "берут на пушку"

*Моему сыну, курсанту военного авиационного института им. Можайского (Санкт-Петербург) поставили условие — заключай контракт на службу в российской армии, иначе не получишь диплома. Что же ему делать?*

***Юрий АНТОНОВИЧ.***

*Минская область.*

Это самоуправство руководства института. Начальник пресс-центра Министерства обороны Беларуси Владимир Заметалин пояснил, что за пределами республики учатся 9 тысяч наших курсантов. Кого направлял военкомат, кто поступал самостоятельно — все должны получить дипломы (есть договор с МО России) и будут трудоустроены на родине.

## Раз, два! Разумное, доброе, вечное засе-вай!

*Учусь в Оршанском педучилище. Через год стану учителем труда и черчения и придет время идти в армию. Слышал, что сельским учителям дают отсрочку, пока они работают в деревне.*

***Руслан БОТКО.***

*Толочинский район.*

Такая льгота была в бывшем Союзе. В суверенной Беларуси сельских учителей пока призывают. В республиканском военкомате мне ответили, что заинтересованные ведомства еще окончательно не определились по этой льготе.

## Собака — друг человека. А друзья дорожают

*Правление ЖСК известило, что с 1 мая я должна платить за своего "двор-терьера" (27 см в холке) — расход воды, газа, лифт — половину стоимости проживания одного человека. Только за лифт выложу 37 рублей. Это за мою-то кроху. Неужели так решил горисполком?*

***Алла ПАНФИЛОВА.***

*г.Минск.*

Решения городских властей по коммунальным платежам за собак я еще не видел, но в управлении жилкомхозяйства пояснили, что в минувший четверг Мингорисполком должен был пересмотреть величину сборов за коммунальные услуги на собак. Действующие тарифы 10-летней давности измеряются копейками.

## Жена руке владыка

*У моего мужа на руке вытатуировано женское имя. Не мое. Мне это неприятно, и муж согласен избавиться от татуировки. Где это делают, и сколько такая процедура стоит?*

***Светлана К.***

*г.Бобруйск.*

Татуировки "выводят" в косметологических лечебницах. Они есть во всех областных городах. В Минске, например, за одну букву берут 1050—2070 рублей.

## Безработный со стажем

*2 сентября 1992 года мне присвоили статус безработного. 2 марта этого года срок его действия истек, а работы я не нашел. Могут ли мне повторно присвоить его?*

***Яков КУЗЬМИЧ.***

*Брестская область.*

Как объяснили мне в Республиканском центре занятости населения, статус безработного присваивается на один календарный год. Так что в вашем случае истек срок выплаты пособия (для мужчин, у которых трудовой стаж менее 25 лет, — это 26 недель). А вот если ко 2 сентября 1993 года вам не удастся найти работу, тогда статус безработного присвоят повторно. Размер пособия будет уменьшен.

## Подхватил заразу? Захвати и кошелек

*Есть ли в Минске клиника по анонимному лечению венерических заболеваний?*

***ДИМА.***

*г.Минск.*

Есть такая клиника в столице — городской кожно-венерологический диспансер, улица Прилукская, 46а. Заходите без паспорта. Курс обследования стоит: для мужчин — 7,4 тыс. рублей, женщин — 8 тыс. рублей. Примерно на столько же потянет и лечение.

## Кто есть где

*Список страховых компаний, зарегистрированных в Госстрахнадзоре Беларуси и получивших лицензии на право ведения страховой деятельности.*

**(Продолжение. Начало в №№ 45,49,60,68.)**

**"БелАверс"**

220116, г.Минск, пр-кт газеты "Известия", 47, гостиница "Звезда", комн. 312. Тел. 70-91-68.

**"БТА"**

220116, г.Минск, пр-кт газеты "Известия", 47, гостиница "Звезда", комн. 417-418. Тел. 70-91-67.

**"ВитАСКО"**

210015, г.Витебск, пр-кт Черняховского, 12. Тел. 1-60-90.

210035, г.Витебск, Московский пр-кт, 120. Тел. 96-38-94.

**"Медведь"**

225320, г.Барановичи, ул. Кирова, 69а. Тел. 5-53-42, 5-32-23.

**"Белорусский народный страховой пенсионный фонд"**

220004, г.Минск, ул. Островского, 18. Тел. 26-68-22.

**Рубрику ведет Юрий НОЯРОВИЧ.**

*Читатель — газета*

## Почему нас считают третьесортными?

Наша автобаза обслуживает предприятия службы быта Могилевской области. Но в этом году, к сожалению, не в состоянии четко и в полном объеме обеспечивать своих клиентов. Почему?

Прежде всего дает себя знать острейшая нехватка горюче-смазочных материалов. Бензина, например, выделено всего 40 процентов от фонда прошлого года. Исходя из этого мы вынуждены на 60 процентов сократить выделение транспорта предприятиям службы быта. Это привело к тому, что из-за недоставки материалов, запасных частей для бытовой техники и аппаратуры закрывается очень много приемных пунктов, ателье и мастерских. И это в области, население которой пострадало от аварии на Чернобыльской АЭС.

Из-за отсутствия ГСМ в первом квартале т.г. перешли на четырехдневную рабочую неделю. Автобаза вообще на грани остановки. Рабочим грозит безработица.

Почему правительство республики считает предприятия нашего типа третьесортными? Почему автобазам транспорта общего пользования выдают 80 процентов фонда прошлого года, а белбытсоюзовским — ровно половину их лимита?

"Раздевают" нас и организации, подающие теплоэнергию. Стоимость одной гигокалории возросла с 0,9 тысячи рублей до 11 тысяч. Десятки организаций Могилевщины по этой причине уже в марте слили воду из систем отопления.

Хотелось бы знать, когда правительство обратит свой взор на нужды бытовиков? Кто понесет ответственность за развал автопредприятий Белбыта?

**От имени коллектива предприятия — В.КРУПСКИЙ, директор автобазы территориально-производственного объединения "Могилевоблбыт", депутат областного Совета народных депутатов.**

## В тисках бюрократии

Уволившись недавно в запас, мне пришлось обратиться в паспортный стол ЖЭС-5 г.Пинска за получением паспорта. И вот тут началось: от меня потребовали военный билет — раз, выписку из военкомата — два, свидетельство о рождении — три, свидетельство о заключении брака — четыре, справку о прописке — пять, заявление (форма N 1) — шесть, листки прибытия в двух экземплярах — семь.

Согласен, некоторые из затребованных документов важны и необходимы. Но, товарищи дорогие, какое отношение к получению паспорта имеют, в частности, адресные листки прибытия, не говоря уже о других представленных справках? Ведь не сегодня я прибыл в Пинск, уже двадцать лет почти здесь живу, и тогда еще, прописываясь в городе, были составлены подобные документы для представления в паспортный стол. Однако вновь они оказались нужны, и в очередной раз, попросту говоря, переводится бумага. Как и раньше, вновь заполняю графы с указанием своих фамилии, имени и отчества, даты и места рождения, какого пола и национальности, прописываюсь по какому адресу и откуда, когда прибыл и т.д.

Ну для чего все это, спрашивается? Кому нужны при получении паспорта такие вот ни уму, ни сердцу составленные бланки? На местах, в общем-то, не виноваты, они лишь выполняют вышестоящие инструкции, которых пока никто не отменял, разве что умножал и расширял. Вот и крутись в омуте бумаг, коль жить хочешь. Так уж у нас все устроено.

Хотел было на этом и точку поставить. Но вспомнил: предстоит в скором времени очередная бумажная волокита с получением жилищной квоты и приватизацией квартиры. Здесь, говорят, столько бумаг будет исписано, заполнено, утверждено, столько кабинетов и разных инстанций обхожено, что действительно полученная квота станет уже не рублевой, а золотой. Вот так-то.

**Василий ШАМШОРИК, журналист.**

Пинск.

## Некому помочь?

Уверена, что те, кто бывал в Минске на развилке улиц Немига и Мясникова, обращал внимание на несколько полуразрушенных домов, существующих под названием улица Коллекторная. Признаться, меня удивляло, почему эта рухлядь до сих пор не снесена — в центре Минска этот "образец архитектуры" смотрится как бельмо на глазу. Но оказалось, что в этих покосившихся, щелеватых, буквально разваливающихся домиках живут люди. Совсем недавно один из домов заполыхал, и, движимая любопытством, я решила узнать о дальнейшей судьбе его обитателей. Случай свел меня с Майей Александровной Сапожниковой, человеком, которому небезразлична жизнь людей, попавших в беду. Вот что она рассказала...

В доме, на месте которого теперь обугленный остов, жили четыре брата Кудрявцевых. Жили без родителей: была мать, да ушла жить к новому мужу, забыв о сыновьях и оставив их без копейки в кармане — пособия они никакого не получают, а много ли может заработать старший брат? Ютились в одной комнате — остальная часть была уже непригодна для жилья. Естественно, ни о каком отоплении и электричестве не могло идти речи — состояние дома аварийное, и он готов был вспыхнуть в любую минуту. Что, кстати, и случилось, правда, не без помощи местной шпаны, облюбовавшей это строение в качестве притона.

Долго добивалась Майя Александровна перевода Кудрявцевых в соседний дом под номером четыре. Добилась. Опять без света и тепла, неудивительно, что ребята не ходят в школу — какая уж тут учеба, если вопрос стоит о выживании. Показывая мне нынешнюю обитель ребят, Майя Александровна, пожилая сухонькая женщина, говорила с горечью:

— Никому они не нужны, даже матери. Бросила и ушла. Я вот приду сюда, приберу, стараюсь и поесть принести. С 16 лет на войне была, но такого никогда не было... Хоть бы кто помог! Неужели никому не нужны четыре человека?!

Не знаю, как смотреть ей в глаза. Не знаю, что думать о той, которая бросила ребят, о "должностных лицах", которые, согласно служебному положению, обязаны позаботиться о людях, которых судьба выбросила на свалку. "Хоть бы кто помог..." — фраза, брошенная в пустоту. Некому помочь...

**Юлия ВАСИЛИШИНА, студентка Белгосуниверситета.**

*Суботняе крэсла*

## Навошта бацьку зноў вучыцца з сынам?

**Іван ГЕРАСЮК**

У мяне ствараецца ўражанне, што ў свае сорак з "хвосцікам" я зноў хаджу ў школу і зноў вучуся, пачынаючы з першага класа. І, пэўна, так будзе, пакуль мой сын не скончыць школу.

Дзіўная цяпер вучоба. Прайсці праз першы клас без дапамогі бацькоў не могуць нават найздольнейшыя. Дзесьці з пятага класа, відаць, давядзецца наймаць рэпетытара і, можа, нават не аднаго. Англійскай мовы я сам ніколі не вывучаў і нічога не разумею ў сшытках сына па гэтаму прадмету. А што казаць пра інфарматыку, калі ў свой час мы камп'ютэра ў вочы не бачылі?

Кожны дзень я атрымліваю новыя заданні: то трэба прынесці ў школу нейкую кнігу, якой там няма, то знайсці часопіс з рэбусам, то даведнік пра рэкі і азёры... Дык ці здольна сёння дзяржаўная школа сама даць нашым дзецям належныя веды? Сумняваюся.

Школа ніколі не была прыемным месцам. Проста мы ідэалізуем яе ў сваіх ружовых успамінах. Не лепшая яна і сёння. Можна пацікавіцца ва ўрачоў, колькі сёння ў школах нервовых дзяцей. Асноўны сродак для навучання па-ранейшаму — страх. Страх перад двойкай, перад пакараннем, перад выклікам у школу бацькоў. Настаўніцкай індывідуальнасці няма і быць не можа. Жорстка кантралюючца з розных РАНА і аблАНА захаванне методык і зацверджаных праграм. Ад іх — ні кроку ў бок. Бюракратычная машына ў сістэме адукацыі нічолькі не змянілася,мяняюцца толькі самі праграмы.

Не збіраюся змагацца за аздараўленне гэтай сістэмы. Мы маем тую школу, якой заслугоўваем.

Таму і вымушаны траціць свой небагаты вольны час на ролю дамашняга настаўніка, часцей за ўсё дылетанта.

У нармальным грамадстве школа сама цалкам адказвае за навучанне і забеспячэнне вучэбнага працэсу, вызваляючы ад гэтага бацькоў. Так робіцца ў Францыі, Швецыі ці Венгрыі. Бацькам жа і без школы хапае стрэсаў.

Аднак у сённяшняй сітуацыі нам застаецца спадзявацца толькі на тое, што здольныя вучні ўсё ж праб'юцца да сапраўдных ведаў, можа, нават не дзякуючы школе, а насуперак ёй.



*Жыццё як яно ёсць*

## Сапраўдны рынак — на базары?

Ці ўмееце вы гандляваць жавальнай гумкай, памідорамі або адзеннем "сэканд хэнд"? Калі не, то вам можна крыху паспачуваць, бо сёння, калі ўвесь наш народ выпхнулі на новую шырокую дарогу да рынку, навыкі ўпэўненых паводзін за прылаўкам ці проста ля груды тавараў на разасланай газеце могуць спатрэбіцца любому. Курсы маркетынгу — справа добрая, але і базарны вір, калі ў ім агледзецца, таксама шмат чаму навучыць. Самыя рыначныя адносіны — на базары! Я прыходжу ў гэтае шматлюднае месца і бачу свайго знаёмага, былога шафёра, які сёння гандлюе "Снікерсамі" і цыгарэтамі. Свой тавар ён прывозіць з Расіі і гэтага не рабіў бы, каб было нявыгадна. Побач у ім прадаюць пантофлі, цыбулю, мяса, і на жыццё, здаецца, ніхто не наракае. Значыць, зарыентаваліся, навучыліся. А калі ўспомніць тысячы нашых суайчыннікаў, якія гандлююць на ўсіх базарах і "таўкучках" ад Кітая да Германіі ўсім, што ўдалося працягнуць праз мытні? Зразумела, краіна праходзіць эканамічны лікбез, няхай і такім нецывілізаваным шляхам. Перад вачыма прыклад суседкі Польшчы, і мы ў нечым паўтараем ёю ўжо пройдзенае.Іншая справа, што пара пачынаць нешта рабіць, каб тавары было выгадна не толькі прадаваць, але і вырабляць.

**Сяргей ГРЫЦ, фота аўтара.**



*А што ў правінцыі?*

### Штаб зноў дзейнічае

**Адноўлена дзейнасць раённага штаба добраахвотных народных дружын у Клічаве.**

На прадпрыемствах, у гаспадарках створана ўжо чатырнаццаць мясцовых фарміраванняў грамадскага парадку. Асабліва актыўна пачалі працаваць дружыннікі ў калгасе "Нясята". Дзяжурныя групы вечарамі аб'язджаюць усе вёскі, аглядаюць гаспадарчыя аб'екты. Там, дзе дзейнічаюць ДНД, жыць стала спакайней. Менш дэбашырства, боек і крадзяжоў.

### Дом з магазіна

**Уласны фірменны магазін "Ялінка" адкрыў Смаргонскі лясгас.**

Прадаюць у ім зрубы для катэджаў, дошкі для падлогі, вагонку, плінтусы і нават карункавую шалёўку. Кожны такі дом з мансардай мае тры пакоі агульнай плошчай 100 квадратных метраў і каштуе 3 мільёны рублёў. Але, нягледзячы на дарагоўлю, ад пакупнікоў няма адбою, запісваюцца ўжо на ліпень.

### Піце, свінкі, малако!

**Дзесяткі населеных пунктаў Ганцавіцкага раёна перасталі пастаўляць малако дзяржаве. Гаспадыні спойваюць яго свінням. Але робяць яны гэта не з мэтай нашкодзіць, а ад бязвыхаднасці.**

У вёсках і на хутарах, размешчаных далёка ад цэнтральных сядзіб, па сутнасці, не купляюць у насельніцтва малако. Сялянам тлумачаць, што расходы на яго дастаўку большыя, чым даходы ад продажу. Менавіта па гэтай прычыне, нягледзячы на павелічэнне колькасці кароў на асабістых падвор'ях Брэстчыны, продаж малака дзяржаве ў прыватным сектары вобласці скараціўся на трэць.

### 600 тысяч долараў на ... зубы

**Менавіта такую суму выдзеліў Гомельскі аблвыканкам стаматалагічнай службе рэгіёна. Паведаміўшы аб гэтым, газета "Гомельская праўда" ўдакладняе, што зусім не асаблівай любоўю да гэтай галіны медыцыны тлумачыцца такі шчодры жэст.**

Проста стаматалогія ў рэгіёне, які больш за іншыя пацярпеў ад чарнобыльскай катастрофы, знаходзіцца ў вельмі запушчаным стане. Не хапае не толькі абсталявання, але і інструментаў, пламбіравальнага і пратэзнага матэрыялу. А ўрачы-стаматолагі з самых паўднёвых раёнаў даўно і назаўсёды паехалі ў чыстыя зоны.

**Белінфарм.**

*Ці чулі?*

### Вугра выпусцяць у Нарач і Дрывяты

**З 1985 года ў вадаёмы рэспублікі не робіцца выпуск лічынак вугра, і яго колькасць значна скарацілася.**

Каб захаваць гэты від рыбы ў рэспубліцы, урадам было прынята рашэнне выдаткаваць 45 тысяч долараў на набыццё 800 тысяч яго лічынак, пераважна ў Іспаніі. Лічынкі вугра плануецца выпусціць у Нарач і Дрывяты.

**РІД.**

### Уехал на... пенсию

**Грузовую автомашину "преподнесли" труженики колхоза "Советская Белоруссия" Докшицкого района своему товарищу Михаилу Будичу в день его ухода на пенсию после 40 лет работы шофером.**

Подарок очень даже не новый, но хорошо сохранившийся стараниями самого юбиляра, который всегда бережно относился к вверенной ему технике.

**Степан СТАРОЖИЛ.**

### Вам імідж ад Грыўцова

**Першае ў Беларусі прыватнае "Агенцтва Уладзіміра Грыўцова" заявіла аб сваіх намерах арганізоўваць і прадаваць паслугі па "Паблік рылэйшнз" — фарміраванню грамадскай думкі.**

Першыя крокі ў гэтым напрамку ўжо зроблены: чытачы розных перыядычных выданняў рэспублікі маглі пазнаёміцца з публікацыямі лабісцкага характару за подпісам агенцтва. Сярод яго кліентаў — камерцыйныя структуры і палітычныя партыі, якія жадаюць шырока прапагандаваць сваю дзейнасць. Стварыўшы надзейную матэрыяльную базу, агенцтва спадзяецца ў будучым узяць на сябе клопаты аб аўтарскіх правах літаратараў і журналістаў.

**Белінфарм.**

*Памфлет*

## Каким ты был, таким ты и остался...

### (Земельной реформе посвящается)

**Павел СТАСЕВИЧ**

Наш народ испугать нельзя. Сколько ни бьется большое и малое начальство, настойчиво вгоняя его в голод и нищету, а широкая публика все равно смотрит на мир весело и с надеждой.

Правда, один раз дело было. Это когда Большой Человек залез на Высокую Трибуну и рубанул коротко и сурово: "Нынешнее поколение советских людей будет жить при коммунизме!"

Тут народ, конечно, струхнул. И поначалу суетливо засеменил в указанную сторону. Но потом как-то пообтерся-пообвыкся. И вскоре молча остановился в развитом социализме.

Но отдохнуть ему дали мало. "Дисциплина!", "Ответственность!", "Каждую минуту — работе!" — зазвенело вскоре вокруг.

Народ после пережитого на эти устрашающие вопли родного государства реагировал уже слабо — и не такое видали. В психушки публика валила охотно, словно на любовные свидания.

Тут начальство в пору было пожалеть — никак не придумывало, бедное, новые, невиданные доселе испытания родному народцу.

— А не попробовать ли нам его на излом?! — родилась вдруг как-то по весне шальная мысль.

Грянула перестройка.

— Быстрее! Лучше! Смелее! — зарявкало окрест. — Перестраивайся! Ускоряйся! Перетряхивайся! — зазвенело приказно.

Но страха все равно не было — массы, наоборот, ревели от удовольствия.

Большое начальство, наблюдая картину всеобщего экстаза, находилось в шоке.

— Надо решаться на крайние меры! — скумекало наконец оно.

И таки решилось. "Каждому гражданину — по куску земли!" — приказало оно сверху вниз.

Да, это был настоящий удар под дых. Прямой левый хук в правое ухо, как говорят боксеры. Полный абзац, как выражаются журналисты. Как серпом по этим... ягодицам, — призналось крестьянство.

Такого удара народ явно не ожидал. "Как землю?!", "Зачем землю?!", "Какую землю?!" — чухало затылки все взрослое население, демонстрируя общеотрезвляющий бег на месте.

Но начальство беспрерывно наседало. Одна атака сменялась другой. Вслед за союзным парламентом к земле и воле приговорили своих подопечных и парламенты помельче.

Не отстали от коллег и наши белорусские отцы-командиры. Избранный народом для своего благоденствия парламент грозно надул щеки и принял еще не Уголовный, но уже Кодекс о земле. Кумекай, мол, что к чему. Бери и паши, не отвлекаясь на митинги и перевыборы.




Пугливый белорус "сцішыўся" и косяком повалил в родные Советы с корявыми заявлениями насчет земли, мысленно повторяя отцовский наказ: "Дают — бери, бьют — удирай".

Бить начали почти сразу. Всучив некоторым доходягам землю, на местах принялись умело обскубывать хозяев-кулаков.

— Ага, на колхозы-совхозы руку подняли?! — пристали самые бдительные к насильно обремененным землей. — Родную Родину-мать продаете!..

Насмотревшись таких экзекуций, белорусский народец с испугу понял так, что вышел недобор, и начальство поэтому бушует. На выручку селу поспешили горожане. Отвлекая удар на себя, они завалили государственные конторы просьбами об огородах-дачах-особняках.

Такой смелости уже явно не ожидало начальство. "Перебор, хлопцы, случился, — тайно сообщило оно друг дружке. — Повертай назад!"

И хлопцы начали дружно грести в обратную сторону. То, что делать это они записные мастаки, стало видно сразу. Во все большие и малые конторы Белой Руси косяком повалил с челобитными-жалобами народец от плуга, серпа и молота, которому сначала где-то сверху сказали: "На!", а в родном селерайоне со смаком подсунули под нос бо-ольшую фигу: "Накося"!

Залихорадило и почту. Как человек, получающий жалованье и за то, что систематически почитываю письма читателей по аграрным вопросам, знаю это досконально. Одна "Народная газета" ежедневно вводит в большую трату родную державу и добавляет работы почтовикам, переправляя во все мыслимые инстанции людские слезы о матушке-земле. Часть писем, конечно, печатаем в газете. Но все ж не напечатаешь.

Тем более что после писем работы не убывает. С утра снова открывается в редакции дверь, и усталый человек уже с порога начинает вызывать корреспондента "на выезд".

— Ой, дела у нас, дела!

И дела, действительно, такие, что у многих давно перехватило дух и схватило сердце.

Народ, разуверившись во всем, рвется напролом либо лично к С.С. Шушкевичу, либо строчит письма-обращения в газеты. Самые отчаянные говорят просто:

— Будем землю забирать силой!

В общем, до вил в руках при таком ходе процесса осталось недалеко, хотя и очень нежелательно. Особенно если родной парламент, принимая Закон "О праве собственности на землю", не сумеет просто и ясно ответить взбаламученному слухами о земле и воле белорусу на пару простых вопросов.

Первый. Так землю у нас на "бацькаўшчыне" дают или все-таки забирают?

Второй. Если дают, то почему так, что ее не очень хочется брать?

Третий. Если ее с боем взять, то не придется ли отдавать без боя?

Четвертый. Можно ли на исходе двадцатого века как-то решить земельный вопрос так, чтоб не чесались руки по вилам, не сводило скулы и не замирало от перегрева натруженное сердце белоруса? Чтобы было хорошо и колхозу, и фермеру, и дачнику?

Честно говоря, понимаю, что эти вопросы так сложны для ответов. Но не так же, чтобы бежать от них быстрее лани. Если, конечно, эту громогласно объявленную земельную реформу двигать вперед, а не зажимать по углам и не заталкивать в большие и малые тупики.

Или в конце концов сказать народу просто:

— Ребята! Ошибочка вышла: мы не то сказали, а вы не то услышали. Отгребай назад!

Хоть ясность какая-то будет. А то эти земельно-реформенные драмы, честно говоря, уже изрядно всем надоели. Даже журналистам приелся этот нервно-щипательный жанр.

А лично меня так вообще тянет в обратную сторону — на смех сквозь народные слезы. Им попробуем лечить язвы общества, зажимщиков хороших дел и изгибы-перегибы линии текущего момента.

Последнее лекарство. Может, хоть им проймем самих себя?..

*Ад сэрца...*

### У падарунак кожнаму дзіцяці па... "Мерседэсу" і шафёру

**Па шыкоўнаму аўтамабілю самых розных зарубежных марак атрымае кожны выхаванец мінскага дзіцячага дома нумар 2 у час дабрачыннай акцыі, якая адбудзецца 8 мая ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры. Такія падарункі, праўда, пакуль што ў выглядзе цацак, малышам уручаць прадстаўнікі беларускай холдынгавай кампаніі "Паслуга БК".**

Цэлы дзень дзеці з дзіцячага дома правядуць у гасцях у гаспадароў холдынгавай кампаніі, якая часова размясцілася ў сценах выставачнага комплексу. Тут, акрамя заакіянскіх прысмакаў — ананасаў, бананаў, цукерак, малышоў чакае і знаёмства з прывабным светам сучасных аўто. Дарэчы, на гэты раз не цацачных. У выставачнай зале з выпадку прыходу маленькіх гасцей часова прапісаліся "Лінкольны", "Мерседэсы", "Вольва" і мноства іншых машын з усіх куткоў свету. Акрамя таго, арганізатары "выхаднога дня" для дзяцей-сірот не забыліся запрасіць на свята і шафёра, каб дзеці маглі не толькі паглядзець на дарослыя "цацкі", але і пакатацца на іх.

Што ж, гуляй, дзетвара, — плаціць "Паслуга". Дарэчы, грошы немалыя — больш як 6 мільёнаў затрацілі арганізатары гэтай акцыі.

**Кацярына ВЫСОЦКАЯ, Белінфарм.**

Мінск.

*Своими глазами*

# Заложники социндустрии,

## или Чернобыль посреди сибирской тайги

Алесь СИВЫЙ

Солнечное свежее утро в Братске придало бодрости после шестичасового перелета.

Аэропорт окружала тайга.

— Вам куда, ребятки? В город? — проворные таксисты, завидев наши нерешительные движения и ищущие взоры, начали мельтешить перед глазами, лениво постукивая по ладоням ключиками от "тойот" и "ниссанов". "И во сколько это обойдется?" — ненавязчиво поинтересовался я. "Тебя, уважаемый, как гостя, отвезу за пять штук".

К великому огорчению (моему), так и не успел разобраться, везут ли они "не гостей" дешевле.

Город не впечатлял. Выстроенные в 60-е деревянные домики продолжали ютить большие семьи, а все вместе напоминало нечто вроде железобетонного электрифицированного мешка. Казалось, на природе поставили жестокое клеймо. Над городом висел странного цвета смог.

Исторически строительство Братска было задумано в такое время, когда энтузиазм полыхал в груди наших сегодняшних бабушек и дедушек, как огонь в мартене, и вряд ли кто-нибудь думал тогда в первую очередь благоустроить жизнь рабочих. "Сдадим первые агрегаты к XXII съезду КПСС!", "Партия с вами, товарищи!", "Выполним и перевыполним!.." Лозунги, надо отметить, находили отклик в массах, и тысячи людей из всех республик, получив знаменитую комсомольскую путевку, устремлялись со скудным набором провизии и одежды открывать светлые дали социалистического общества. Верили ли они тогда в идею коммунизма? Наверное, да. Иначе не обрекли бы себя добровольно на такие трудности, одно упоминание о которых у сегодняшнего молодого человека вызовет легкое шевеление волос.

❑

Мария Ивановна Филипченко приехала на стройку из Могилева еще совсем юной. Затем вышла замуж и уже навсегда осталась в Сибири.

— Тяжело ли было? Конечно! — Мария Ивановна разливала по чашкам крепко заваренный китайский чай. — Жили-то в палатках, а мороз был под пятьдесят градусов. Но это можно было стерпеть. Вот когда налетала тучами мошка с порогов Ангары и буквально лепила тебе глаза — тут уж не выдерживали самые мужественные. Говорили, что "лучшие умы" в Москве работали над тем, как ее уничтожить. Травили каким-то дустом, после чего дышать было невозможно. Выдержали. Теперь у меня — взрослый сын Андрюша, работает в совместном российско-китайском предприятии, растет внучек... А на Родину?.. Конечно, хотелось бы. Вот только прижились мы здесь...

❑

Братск еще называют белорусской колонией. То, что сегодня на Братской ГЭС двадцать процентов работающих — выходцы из нашей республики, уже говорит о многом. К слову, поток из Беларуси продолжает медленно "накрывать" этот сибирский городок. Кто едет? Бизнесмены, искатели приключений. Близость к Китаю и относительно спокойная обстановка как магнитом притягивают сюда всяких нечистых на руку граждан. Впрочем, большинство белорусов приехали именно в 50—60-е годы. Поэтому, войдя в кабинет к управляющему рабочими кадрами "БратскГЭСстроя" Валентину Ефремовичу Лемешевскому и представившись, не удивился, когда услышал в ответ: "Обязательно передайте привет в Минске моему родному брату".

Итак, чем же живет сегодняшний Братск?

"Город живет за счет налогов с предприятий, — говорит Валентин Ефремович. — И нам выгоднее сотрудничать с областью, нежели с гордой Москвой. Такие города, как Братск, "донорами" называют — всех кормим и одеваем почти за спасибо. Взять хотя бы алюминиевый завод. Его продукция напрямую идет в 17 стран мира, и есть смысл задуматься, что из всего этого извлечет город и его люди".

По сути дела, "война" центру уже объявлена, хотя не исключены и компромиссные варианты. Сегодня рабочий на Братской ГЭС получает около 50 тысяч рублей, и вряд ли "низы" в ближайшее время начнут требовать каких-либо перемен. Борьба идет, как говорится, в высших эшелонах власти.

❑

Несмотря на свой юный возраст, Братск успел завоевать недобрую славу экологически кошмарного города. За последнее время число мертворожденных детей здесь выросло на треть, детей с врожденными аномалиями увеличилось вдвое, с онкологическими заболеваниями — впятеро. Впору сравнивать с Чернобылем. Перед нашим приездом на Братском алюминиевом заводе произошла авария. Были жертвы. Как водится в таких случаях, по городу поползли слухи: на заводе переплавляли списанный военный самолет. А чуть погодя еще одна "радостная" новость — под Иркутском прорвало нефтепровод. Вылилось 20 тонн нефти. Наверняка здесь уже ничего не поделаешь, ибо сама система еще при строительстве обрекла такие города на медленную, но ужасную смерть.

"Где вы видели, чтобы в одном месте были сконцентрированы такие мощности? — продолжил Валентин Ефремович. — Да один алюминиевый, который в бывшем СССР производил 20 процентов всей подобной продукции, если не дай Бог бабахнет! От этих химикатов в домах уже начинают зеленеть стекла, а кое-где так и плавятся. Дети уродами рождаются!"

Первые уроки варварского обхождения с природой, похоже, не пошли впрок.

❑

Преступностью Братск славится. Мелкие сошки, как правило, орудуют на рынках, где можно под жалобные возгласы "Плостите, не надо!" отобрать у торгующего китайца худо-бедный "кожан" или рэкетнуть на тысячу-другую заезжего бизнесмена. Люди из мафии работают покрупнее. Не приведи Господь, чтобы вам досталась на предприятии машина из Японии, что, кстати, очень часто случается в Братске. Можно считать, что ее уже нет, ибо дальнейшая раскладка сил не в вашу пользу: "крутые" парни тут же предлагают вам поменять свое новоприобретение на их "поезженный товар". Пробовали не соглашаться, но в таком случае оставались и вовсе с носом. По словам одного достаточно "авторитетного" в городе человека, так называемая мафия контролирует практически все крупные предприятия, взимая с них дань по весьма крутым "тарифам". Не так давно хоронили местного "пахана", который с чьей-то легкой руки взлетел на воздух в собственном "жигуленке". Говорят, на похороны съехались "собратья" со всего бывшего Союза. Вот уж воистину интернационализм!

Что еще привлекает тамошних и не только "мафиози", так это золотые прииски на Лене. Как мне объяснили, при хорошей "организации труда" можно "мыть" золото, не прилагая особых усилий. Правда, на предложение открыть профессиональный секрет этакой работенки ребята недвусмысленно намекнули, что белорусская газета может потерять неплохого, но чересчур любопытного корреспондента.

❑

Самолет отлетал, когда город продолжал жить своей жизнью. Город, где одним росчерком пера тогдашнего партийного босса переплелись тысячи человеческих судеб. Вечный памятник социндустрии — Братск.

*Москва — Братск — Минск.*



❑ *Первые белорусские добровольцы прибыли в Сибирь (фото из семейного архива М.И.Филипченко).*

*Два ракурсы*

## Масква — горад кантрастаў?

Сённяшні дзень былой сталіцы магутнай імперыі, бадай, змог бы стаць узорам для лекцыі на гэтую тэму. Сярод сапраўднага базару, дзе можна набыць усё любога памеру і колеру, ёсць маленькі куток. Здаецца, час спыніў тут свой бег. Тое, што адбудзецца праз гадзіну, будзе ўсяго толькі паўтарэннем аднаго і таго ж рытуалу. Рытуалу, які быў сапраўдным сімвалам дзяржавы, які натхняў многія пакаленні на працоўныя і баявыя перамогі...

**Фота Сяргея ГРЫЦА.**





## Каралеўства стане яшчэ багацейшым

**У Саудаўскай Аравіі выяўлена вялікая колькасць новых залатых месцанараджэнняў, і ў бліжэйшыя пяць гадоў краіна, якая здабыла ў 1992 годзе 5,5 тоны золата, можа давесці аб'ём яго здабычы да 15 тон у год.**

Як паведамляе сёння газета "Халідж таймс", якая выдаецца ў ААЭ, прадстаўнік міністэрства нафты і мінеральных рэсурсаў каралеўства заявіў, што новыя залатыя месцанараджэнні выяўлены на захадзе і на поўдні краіны. Цяпер саудаўскае золата здабываецца ў асноўным у цэнтральнай частцы Аравійскага паўвострава.

## СНІД не спіць...

**Смертаносны вірус, які выклікае ў людзей "чуму XX стагоддзя", дабраўся да высакагорнага Непала.**

У мінулым годзе медыкі па выніках выбарачнага тэстыравання выявілі 25 чалавек, у тым ліку 7 жанчын, інфіцыраваных вірусам СНІД. Як паведаміла агенцтва Сіньхуа з Катманду, гэтыя даныя былі абнародаваны Чырвоным Крыжам Непала, пад кантролем якога праводзілася тэстыраванне.

## Лепш шлюб па разліку, чым "саюз па каханню"

**Кожныя сем з дзесяці індыйскіх старшакласнікаў гатовы даверыць бацькам уладкаванне свайго сямейнага жыцця, а шлюбу па разліку аддадуць перавагу перад "саюзам па каханню".**

Пра гэта сведчыць апытанне 17 тысяч юнакоў і дзяўчат ва ўзросце 14—17 гадоў, праведзенае індыйскім Фондам планавання сям'і ў школах Дэлі, штатаў Хар'яна, Утар-Прадэеш і Раджастхан.

Аказалася, што для пяці працэнтаў апытаных пытанне аб жаніцьбе ці замужжы неактуальнае, паколькі яны ўжо напаткалі сваё шчасце, нягледзячы на закон, які забараняе раннія шлюбы. Але да радасці супрацоўнікаў фонду, які прапагандуе выгоды так званых малых сем'яў, 90 працэнтаў маладых людзей адказалі, што не маюць намеру абзаводзіцца больш чым двума дзецьмі.

У той жа час школьнікі мала дасведчаны ў далікатным пытанні засцярогі ад цяжарнасці. Для многіх з іх "настаўнікам" служаць тэлебачанне, відэа. На думку аўтараў апытання, палавое выхаванне большасці юнакоў і дзяўчат знаходзіцца на прымітыўным узроўні. У канчатковым выніку гэта пагражае падарваць усе намаганні ўлад па абмежаванню нараджальнасці ў Індыі, насельніцтва якой перавáліла ўжо за 850 мільёнаў.

## Самае прыбытковае "старажытнае рамяство"

**Утрымальніца публічных дамоў у Турцыі мадам Мацільда Манук'ян — адна з самых багатых у краіне.**

У 1992 годзе яна апярэдзіла ўсіх мультымільянераў краіны па выплачаных стамбульскай падатковай канторы падатках з прыбытку.

"Дзяўчаты мадам Манук'ян" прыносяць ёй такія вялікія барышы, што толькі ў мінулым годзе яна ўнесла ў дзяржказну 8,3 мільярда лір, намнога апярэдзіўшы вядучых прадпрымальнікаў Турцыі.

## Рэкорд устаяў. Ці надоўга?

**На працягу мінулага года ў розных краінах свету пры выкананні прафесіянальнага абавязку загінуў 61 журналіст.**

Аб гэтым паведамлялася ў штогадовым дакладзе міжнароднай арганізацыі "Рэпарцёры без граніц".

Самым небяспечным рэгіёнам для работнікаў сродкаў масавай інфармацыі была тэрыторыя былой Югаславіі, дзе ў 1992 годзе загінулі 12 журналістаў. Усяго ж з часу пачатку канфлікту ў рэгіёне у жалобны спіс былі ўнесены імёны 27 карэспандэнтаў газет, радыё і тэлебачання. Такім чынам, адзначаецца ў дакладзе, амаль паўтораны трагічны "рэкорд" Сальвадора, дзе за гады грамадзянскай вайны знайшлі смерць 30 журналістаў.

## Фунт прыкметна "пахудзеў"

Манета вартасцю ў адзін фунт стэрлінгаў была пушчана ў абарачэнне роўна дзесяць гадоў назад, аднак з узростам англійскі фунт парадкам "пахудзеў". Узяўшы пакупную здольнасць фунта ў 1983 годзе за сто працэнтаў, спецыялісты Цэнтральнага статыстычнага ўпраўлення Вялікабрытаніі падлічылі, што ў дзень дзесяцігадовага юбілею ён "важыць" усяго 61 працэнт.

У параўнанні з 1980 годам пакупная здольнасць брытанскай грашовай адзінкі з-за інфляцыі паменшылася ўдвая, у параўнанні з сярэдзінай 70-х гадоў — на тры чвэрці. А калі зазірнуць яшчэ далей у мінулае, дык, паводле сцвярджэння статыстыкаў, высвятляецца, што сёння пакупніку даводзіцца плаціць адзін фунт за тавары, якія ў 1918 годзе абышліся б усяго ў чатыры пенсы.

*Из иностранного юмора*




❑ У магазина "Товары для художника".

❑ — Значит, так. Когда мне понадобится твоя помощь, я тебя позову.

❑ — Этот профессор был похищен инопланетянами. И они заставляли его каждый вечер... решать интегральные уравнения на цирковой арене.

**Рисунки из журналов "Нэшнл инквайрер" и "Штерн".**

*Мысли человека, побывавшего за рубежом*

# Кто протянет руку медицине?

**Немецкие врачи предупреждают: на спонсоров нельзя рассчитывать вечно. Запад всех не вылечит. Кардинальные изменения должны произойти внутри отечественной системы здравоохранения.**

Знакомый немецкий врач, чья частная зубная практика (в Германии в это понятие входят здание, оборудование, персонал) считается достаточно респектабельной и известной, редко чему удивляется. Но в гомельской глубинке, куда он попал с акцией гуманитарной помощи, посетив местную районную поликлинику, Гельмут, однако, был изумлен. Не архистарым оборудованием. Шестидесятилетний мужчина, врач в третьем поколении, не видел такого даже в практике своего дедушки, но к этому как раз был готов: читал, слышал. Доктора Гельмута поразило другое. Он буквально с открытым ртом наблюдал, как его белорусский коллега удалял зуб без всякой анестезии (не было), не принося при этом никаких болевых ощущений пациенту. Немец был восхищен "высшим пилотажем" — среди своих стоматологов он не мог вспомнить ни одного, кто бы совершил подобную операцию.

Потом—как всегда, в этой поездке я сопровождала гуманитарную помощь в качестве переводчика — началась "разборка": откуда в этой системе берутся такие прекрасные кадры-профессионалы; вот им бы, мол, нормальную практику в Германии, они такую бы карьеру сделали, а здесь "добывают огонь из кремня, когда всюду пользуются зажигалками"...

Хорошо, конечно, что с падением известной стены западные обыватели увидели не только "совков", людей Системы, но и тех, за кого не стыдно. Но далеко ли мы, что называется, "уедем", добывая, как сказал немецкий доктор, "огонь из кремня"?

Года три-четыре назад, когда на Запад хлынула мощная информационная лавина о последствиях Чернобыля, в немецких клиниках появились больные дети из Белоруссии. Помощь, которая требовалась при их диагнозе, злокачественном заболевании крови, — пересадка костного мозга либо дорогостоящая терапия, оценивалась в 70—100 тысяч марок. Чаще всего наших детей поддерживали немецкие спонсоры, реже валюту находили дома. Потом в немецкой прессе стали появляться сообщения о том, что лейкемия юных белорусских пациентов не связана с Чернобылем, что это "обычный рак", которым болеют и в Западной Европе, и в США, всюду. Спонсоров, естественно, поубавилось — не секрет, что богатые люди редко делают подобные вложения одного альтруизма ради. Помню, меня лично эти слова — "нормальный рак" — несколько шокировали: все-таки не гуманно это по отношению к детям... Однако знакомые врачи из дортмундской группы "За безъядерную жизнь", по линии которых также шла организация лечения, кое-что объяснили. И с их объяснением пришлось согласиться.

— То, что у вас от подобного заболевания умирают 70 процентов и более детей, — это не Чернобыль, это ваша медицина, те самые три процента, которые правительство расходует на здравоохранение. Кстати, вашим врачам нужно отдать должное — они делают для детей все от них зависящее. Они просто также бессильны, как и наши специалисты в подобной ситуации, которая была у нас лет 40—30 назад. Сегодня у нас от лейкемии тоже умирают дети, правда, менее чем в десяти случаях из ста. Поверьте, на спонсоров нельзя долго рассчитывать. Запад всех не вылечит. Изменения должны произойти только изнутри...

Известно, что в Германии не бесплатная, в нашем понимании, медицина. Но даже жители бывшей ГДР, лечившиеся долгое время, как и мы, бесплатно, стали после объединения отмечать, насколько система здравоохранения "у капиталистов" и гуманнее, и демократичнее. Страховая немецкая медицина существует за счет здоровых для болеющего меньшинства. Ежемесячно граждане Германии платят 12 процентов от своих доходов той страховой компании, к которой они прикреплены. Неважно, какие это доходы: незначительные, по здешним меркам, в полторы тысячи марок или же повыше — пятнадцать тысяч, — каждый работающий, перечисляющий в больничную кассу необходимую сумму, понимает, что ему самому придется рано или поздно полечить зуб, пройти профилактический осмотр и, может быть, пусть это лучше не случится, пройти курс очень сложного лечения, прооперироваться. Вот тогда-то он получит от медицины все необходимое, ничего не заплатив, кроме страхового взноса. Освобождены от страховки только самые богатые члены общества. Но ни для них, ни для тех, кто значительно беднее, нет никакой разницы в качестве лечения. Конечно же, человек с достаточными (по немецким меркам) средствами может заказать для себя отдельную палату с особым комфортом, хотя и в обычных, на двух-трех человек, есть телефон, компьютерная связь с медперсоналом.

...Полтора года назад в клинику возле Дортмунда поступил в тяжелом состоянии (все то же злокачественное заболевание крови) маленький минчанин. Дай Бог ему выздоровления! Отец мальчика, тогда первый секретарь одного из столичных райкомов КПБ, винил во всем Чернобыль. В те самые апрельские и майские дни 1986-го его сын находился у бабушки на Гомельщине. Понятно горе отца, но только ли обвинителем должен выступать человек, который сам в крупном административном районе был ответственен за все, в том числе и за детские медицинские учреждения? Ведь без всякого Чернобыля наши новорожденные "приобретали" в наших больницах сепсис, пневмонию, гепатит — не менее опасные своим смертельным исходом болезни. Грянула своя беда, и задумался начальник, а есть ли шансы на спасение в таких условиях, в таких клиниках? Достаточно ли "остаточного трехпроцентного принципа" на качественное лечение? Пришли в голову ему и идеи по поводу местных, а не заграничных спонсоров — минских предприятий, имеющих валюту... Как отец, он сделал почти что невозможное для жизни сына. Но ведь должна же была быть ответственность и за чужих детей, которые заболели не на Гомельщине и Могилевщине, а в его районе и не в результате радиации, а в результате экологических, социальных проблем!

Несколько месяцев назад в Германии была прооперирована учительница из Мозыря. Юрий Честнов, кардиохирург из 4-й минской клиники, где лежала больная ранее, сопровождал молодую женщину в немецкую клинику. Шанс на выживание оставался только за рубежом. Немецкие коллеги финансировали это лечение, расхожее уже слово "Чернобыль" сыграло свою существенную роль в сборе средств. Но Юрий Честнов, наблюдавший за операцией, а затем осуществлявший послеоперационное выхаживание, как профессионал отметил, что все это можно поставить на подобный конвейер и у нас — были бы только необходимые сердечные протезы.

— Нельзя ли выпускать такие клапаны в Беларуси? — поинтересовалась я.

— Нет. У нас не существует медицинской промышленности как таковой. Пытаются что-то делать бывшие военные заводы. Но для них это огромный убыток — идти на изготовление малых заказов. На Западе целый накатанный процесс экспорта-импорта. Есть оборудование, "протезы", приобретенные в США, Японии, в странах Европы. В то же время кардиохирурги многих передовых государств используют в работе продукцию "Сименса", "Филлипса". Думается, нам целесообразно зарабатывать на чем-то валюту, а затем закупать на нее оборудование.

Наша медицина может "выжить" только при значительных вложениях в нее. "Если у нас сейчас ввести страховую медицину, через два-три года мы сможем подойти к операциям по пересадке сердца, — считает Юрий Честнов. — Технически мы уже сейчас выполняем очень сложные операции на том, что имеется".

За страховую медицину выступают и научные сотрудники Белорусского института охраны материнства и детства Анна Петрова и Юлия Бойко, прошедшие недавно стажировку в Берлине. Но всегда любой наш профессионал, находящийся за рубежом, чувствует что-то вроде обиды за свое Отечество. Западные коллеги, которые отнюдь не выше его профессионально, тем не менее выглядят ассами только благодаря аппаратуре, медоборудованию.

Вот, например, детская смертность. В Германии есть вся аппаратура, для того чтобы выхаживать 500-граммовых новорожденных. На Западе 500 граммов — точка отсчета детской смертности. У нас же — килограмм... Верхняя граница у них десять лет, а у нас — год.

Что же может в наших условиях сделать врач, обогатившийся западным опытом?

—Все решает аппарат Минздрава, облздравов, — говорит Анна Петрова. — Я могу написать записки туда, как пишу записки в соответствующую депутатскую комиссию Верховного Совета Беларуси. Меня могут выслушать, я подскажу, исходя уже из немецкого опыта, что лучше купить, с какими фирмами лучше связываться, но, в конце концов, я только врач-консультант, а не консультант правительства.

...Предвижу знакомый совдеповский хор: "Ну, и что из того? Что толку, что сейчас по заграницам катаются не только начальники, но и дети, врачи... На деньги, которые они там проедают, можно было б столько понастроить и стольких вылечить!" Во-первых, не будем забывать, что и врачи, и дети, проходящие в Германии оздоровление, "катаются" за немецкие деньги. А во-вторых, и это главное — учеба конкретных специалистов, отдых конкретных детей убеждают больше, чем непонятно где осевшие кредиты. И убеждают они вот в чем: страховая медицина выгодна здоровым и необходима больным.

**Елена ПАНКРАТОВА.**

*Минск—Берлин—Дортмунд—Минск.*

*Вячэрняя споведзь*

# Ён першы сказаў праўду пра вайну

**Васіль Быкаў першы сказаў праўду пра вайну, пра рассяляньванне, пра чалавека — ахвяру нечалавечага рэжыму. "Прыручыць" Быкава ці зламаць яго волю не дапамаглі ні пагрозы, ні ўзнагароды, ні высокія тытулы. У гэтага чалавека адзін тытул — вялікі, сумленны пісьменнік...**

Пра гэта напомніў, адкрываючы творчы вечар Быкава, прэзідэнт беларускага ПЭН-цэнтра Рыгор Барадулін. Ён жа зазначыў: прайсці агонь і ваду параўнальна проста, застацца сабой пасля ўрачыстых маршаў медных труб можа далёка не кожны. Быкаў жа нясе сваю славу проста і натуральна, як і належыць чалавеку, якога называюць светлым апосталам нацыі. Сам Быкаў пазбягае даваць ацэнкі іншым імёнам і чужым творам, а, выказваючы нейкае меркаванне, падкрэслівае: ён не апостал і не палітык, думка ягоная — усяго толькі суб'ектыўнае меркаванне. Да гэтых меркаванняў Быкава прыслухоўваецца ўвесь свет, і не толькі тыя, хто трапіў у той вечар у залу Палаца культуры чыгуначнікаў, хацелі б іх пачуць. Хто мы, беларусы, куды ідзём і як аднавіць страчаную за дзесяцігоддзі нацыянальную самабытнасць?

— Душа баліць тым, чым у кожнага. Не трэба і сацыялагічных даследаванняў — усе мы грамадства хворае.

Шмат гадоў мастацтва імкнуліся ідэалагізаваць, цяпер наступіла іншая пара — дэідэалагізацыя. Чытаем артыкулы, чуем выступленні, у якіх даволі настойліва і аргументавана ўгаворваюць пісьменнікаў адысці ад палітыкі, перайсці на вечныя тэмы... Мне вельмі сумна чытаць такія рэчы. Як можа літаратура народа, які на працягу стагоддзяў вымушаны весці, я сказаў бы, трагічнае жыццё, абстрагавацца ад гэтага жыцця? Нават калі б яна ставіла перад сабой гэтыя мэты, іх усё роўна немагчыма ажыццявіць...

Наша культура зараз апынулася ў цяжкім становішчы, тут "суцяшаць" у нейкай меры можа хіба тое, што ў цяжкім становішчы апынулася ўсё грамадства. У тым, што гэта адбылося, вінаваты пэўны выбар, які быў зроблены не намі, нават не нашымі пакаленнямі, у 1917 годзе. Наша грамадства звярнула з магістральнага шляху, натуральнага для чалавечай гісторыі, некуды ўбок і праз велізарныя намаганні, кроў і ахвяры ўрэшце ўперлася ў тупік. Цяпер выйсці з гэтага тупіка шчаслівым чынам, відаць, не ўдасца...

Кожная культура павінна быць нацыянальнай, інакш і быць не можа. Нацыянальная самабытнасць з'яўляецца адначасова яе моцным і слабым бокам. Моцным у тым сэнсе, што гэта — спрадвечнае. Бо нацыянальнае не тое, што дазволена ці ўведзена дэкрэтам. Гэта наследаванае ад прыроды, дадзенае Богам, і не трэба папракаць, што ў адных яно ў большай меры праяўляецца, а ў другіх у меншай. Адзіны спадзяванак сёння на тое, што наша культура неяк вытрывае іменна дзякуючы свайму нацыянальнаму менталітэту. Намаганнямі мноства пакаленняў і найперш апосталаў сваіх беларусы захавалі сваю нацыянальную культуру нават ва ўмовах свайго жыцця. Відаць, яна яшчэ адновіць натуральны працэс адраджэння і росквіту.

**Пісьменніка слухала Ірына ДЗЯРГАЧ.**

**Фота Сяргея ГРЫЦА.**

*Поэтическая тетрадь*

## Саша НОВИКОВА

❑

*Бешеный ветер*
*скачет по скользким*
*плитам.*
*Призрачный вечер.*
*Синь фонарей.*
*Ну, а выше, выше —*
*в окнах огни,*
*как неспелые белые вишни...*
*Осень холодная.*
*Не было бабьего лета.*
*Лужи, как стекла.*
*Сыро и мокро.*
*И ветер...*
*Бешеный ветер*
*мчит напролом*
*перспективой ночного*
*проспекта*
*в красных лучах*
*светофорного*
*едкого света...*

❑

*Светлый вечер. Под окнами розовый куст.*
*Небо в еле заметных горошинах.*
*Горизонт отдаленный чарующе пуст,*
*Будто луг, косарями скошенный.*

*На траве уж роса. Заклубился туман,*
*Словно пепел мешается с инеем.*
*Слышен смех. Голоса. Не дочитан роман.*
*Загрустили глаза мои синие.*

*Убежать я смогла от безудержных чувств.*
*Мы расстались с тобой по-хорошему.*
*Отчего же не радует розовый куст,*
*Светлый вечер и небо в горошинах?*

❑

*Мне ты*
*медовые цветы*
*не подарил.*
*От холода полою не укрыл.*
*И я, стоная и скуля,*
*как блудный пес,*
*брела сквозь скорбный*
*строй*
*седых берез...*
*Сама нашла медовые цветы.*
*На них — капель*
*нетронутой росы.*
*Под ними — непочатый*
*край земли.*
*Над ними — небо из воды*
*и чистоты.*
*Медовые цветы я не сорву.*
*Я молча упаду*
*в разрыв-траву,*
*чтобы забыться*
*и тебя забыть...*
*... Хочу цветов,*
*и хочется любить...*

### Воспоминание о любви

*Вот и все. Так бывает, когда берег*
*сумрачно черен.*
*Так бывает, когда, не наплакавшись,*
*не позовешь.*
*Так бывает, когда уезжаешь от моря.*
*Так бывает, когда ничего не вернешь...*
*Вот и все. Так бывает, когда*
*умертвленную розу*
*Меж листов толстой книги, как память,*
*хранишь.*
*Так бывает, когда резеду прихватило*
*морозом.*
*Так бывает, когда от усталости спишь...*
*Вот и все. Я когда-то не знала, что это*
*бывает.*
*У дверей я не знала, войти ли в твой дом.*
*Так бывает, когда нам пурга напевает*
*О летящем в закат безвозвратном былом...*
*... Вот и все. Все мое. Все мое, то,*
*что было...*
*Так бывает, когда обезумевший страстно*
*любил.*
*Так бывает, когда на тетрадку пролиты*
*чернила.*
*Так бывает, когда потерял, но еще*
*не забыл...*

### Космические часы

*Дома — монолиты,*
*а небо — бронза.*
*Пушинкой птица*
*летит надо мной.*
*А подо мною — земля*
*с миллионами тонн ее.*
*В подошве кроссовок —*
*звук города — стон...*
*Земля и небо,*
*как вздох, едины.*
*И их сердца*
*стучат в унисон.*
*Все это вечно,*
*а вечность — пружина*
*огромных*
*небесно-земных*
*часов.*
*Они вне времени,*
*вне пространства.*
*На них нетленный*
*святой покров —*
*Неколебимое постоянство,*
*Недосягаемая любовь.*

*Тэатры*

**8—10 мая**

**Пачатак у 19.00**

**ТЭАТР ОПЕРЫ І БАЛЕТА**

8 мая — **"Рамэо і Джульета". Білеты сапраўдныя са штампам 14 сакавіка.**

**ТЭАТР ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ**

8 мая — **"Звон — не малітва".**

9 мая — **"Таполевая завея".**

10 мая — **"Гаральд і Мод".**

**ТЭАТР-СТУДЫЯ КІНААКЦЁРА**

8 мая — прэм'ера **"Босы ў Афінах".**

**БЕЛДЗЯРЖФІЛАРМОНІЯ**

**(канцэртная зала)**

9 мая — **Дзяржаўны ансамбль танца Рэспублікі Беларусь.** Мастацкі кіраўнік — **В.Дудкевіч.**

*Ці навучымся шанаваць спадчыну?*

## ...А ў сельсавеце адрэзалі: "Ніз-зя!"

**Гісторыкі і краязнаўцы сцвярджаюць, што назва мястэчка Гавязна Стаўбцоўскага раёна паходзіць ад слова "гавенне", якое азначае малітоўны стан чалавечай душы перад прыняццем святасці. Магчыма, гэты этымалагічны корань і стаў прычынай скасавання назвы 400-гадовага паселішча ў шасцідзесятыя гады і замены яе на Вішнявец.**

Аднак сярод жыхароў знайшлося нямала іншадумцаў, хто адміністрацыйную творчасць прыняў за здзек. Нацыянальнае адраджэнне абудзіла патрыятычны дух гавязненцаў. Летась на змітраўскія Дзяды стаўбцоўская раённая газета "Прамень" у краязнаўчым выпуску "Панямонь" змясціла зварот да жыхароў былой Гавязны, да ўсіх краязнаўцаў раёна з заклікам аднавіць гістарычную назву. Зварот знайшоў шырокі водгук. Пачаўся збор подпісаў за вяртанне назвы. Ліст, пад якім падпісаліся дзесяткі вяскоўцаў, накіравалі ў Тапанімічную камісію пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета. Аднак у высокакампетэнтнай інстанцыі не палічылі сваім абавязкам узяць на сябе адказнасць і просьбу спраўна перакінулі ў аблвыканкам, а там вырашылі, што лепш за ўсе камісіі разбярэцца мясцовы сельскі Савет. І вось нядаўна на яго сесіі пытанне было разгледжана. Праўда, не на карысць шматлікіх выбаршчыкаў.

Цяпер жыхары мястэчка з надзеяй глядзяць у бок мясцовай Іаана-Прадцечанскай царквы. Як расказваюць вернікі, бацюшка Серафім Вітальевіч Серафімовіч назаўтра ж без ваганняў і бюракратычных узгадненняў падтрымаў зварот у раёнцы і заклікаў прыхаджан кіравацца законамі ўдзячнай памяці продкаў. Шкада адно, што большасць сельскіх дэпутатаў у царкву пакуль што не ходзяць, таму і шлях да ісціны, відавочна, зацягваецца.

**"Неруш-прэс".**

*Спешите видеть!*

## Страсти по Шипперу

Под занавес юбилейного 60-го сезона в Русском театре случилась премьера. Без фанфар, совсем по-домашнему: на малой сцене, превращенной в тот вечер усилиями художника Е.Волкова в гостиную готического замка, где капает воск с оплывающих свечей, где количество мест едва доходит до полста, а стулья и банкетки для зашедших на "огонек" стоят прямо в декорациях и в ее "просветах"...

"Братья Моор" созданы по мотивам прозы Ф.Шиллера и его известной драмы "Разбойники". Именно в условиях малой сцены, стремясь придать ей новые функции театра-клуба, домашнего театра (увы, давно забытое понятие...), делает эту постановку заслуженный деятель искусств Беларуси, художественный руководитель театра Борис Луценко. Трагедия человеческой личности, хаос души, глубокий внутренний разлад человека с самим собой, своей совестью, трагедия, если хотите, отцов и детей, а также проблемы власти и возмездия — вот предмет пристального исследования театра. Высокая трагедия, шагнув к зрителю на расстояние вытянутой руки, ввергает в водоворот страстей и извечных проблем. Происходящее на сцене стремительно втягивает нас в так называемый домашний конфликт, получивший сложное и масштабное осмысление. В этом видится стремление превратить театр в своеобразный клуб интеллектуального общения.

**Елена ЛИОПО.**

*Мы — беларусы!*

## Назавіце дачку Бажэна...

**Мікола ТРАФІМЧУК**

Памятаю, як адначасова з гордасцю за народ выспяваў у маёй юначай душы і гонар сваёй годнасці, нараджалася гордасць за імя радавое і ўласнае. Я разумеў, што нашу беларускае прозвішча ад славянскага імя ўласнага — Трафім (ці, як у нас кажуць, — Трахім). А імя маё ў гонар бацькі — Мікола. Маці звалі Марыяй, бабулек — Ярынай і Ульянай, дзядоў Гардзеем і Якімам. На жаль, мама мая слаба памятае сёння сваіх дзядоў і бабулек. А я, малюючы сваё генеалагічнае дрэва, з роспачу спыняюся на чацвёртым калене...

Адметныя імёны — адна з галоўных асаблівасцей нацыянальнай культуры. Верыцца, што з нацыянальным Адраджэннем вернуцца да народа і свае спрадвечныя, хоць і забытыя, імёны. Тым больш што народ здолеў усё ж такі захаваць нацыянальную адметнасць уласна славянскіх і царкоўнаславянскіх імёнаў. Гэта ў першую чаргу такія мужчынскія імёны, як Алесь, Міхась, Адась, Юрась, Кастусь і іншыя.

Даволі распаўсюджанымі ў славянскім свеце з'яўляюцца імёны з агульнай для іх састаўной часткай **-слаў**. Напрыклад, Вячаслаў, Мечыслаў, Святаслаў, Станіслаў, Яраслаў, Міраслаў... Добра было б, калі б беларусы вярнулі з забыцця і імёны, якія гучалі некалі на іхняй зямлі. Такія, як Ізяслаў, Багуслаў, Радаслаў, Дабраслаў, Прадслаў... Тым больш што яны аднолькава прыдатны і для жанчын (Станіслава, Міраслава, Яраслава і г.д.).

Увогуле я класіфікаваў бы нашы імёны па ўтварэнню і гучанню. Гэта аблегчыла б бацькам іх выбар для сваіх немаўлят. Ну напрыклад, ёсць шэраг цудоўных мужчынскіх імёнаў з канчаткамі -ан, -ян. Гэта Авяр'ян, Андрыян, Мар'ян, Емяльян, Дзям'ян, Урбан, Ждан, Дабрыян, Ян.

У асобны рад можна паставіць такія імёны, як Шымон, Сямён, Лявон, Мірон, Зянон, Радзівон, Агафон, Сафрон, Гедзіён.

А якія цудоўныя імёны з канчаткам **-аш**! Напрыклад: Тамаш, Лукаш, Барташ, Некраш, Яраш... Ці з канчаткам **-ас**: Тарас, Панас, Волас, Пратас...

Прыгожа дапасуюцца адно да аднаго імёны Яўхім, Трахім, Нахім, Якім альбо Гардзей, Фадзей, Міхей, Мацей... І яшчэ: Мікола, Даніла, Кірыла, Ярыла, Засіма, Міна і гэтак далей.

Падобным чынам можна арыентавацца і ў стыхіі жаночых імёнаў. Напрыклад, калі мужчынскія канчаюцца на **-ан, -ян**, дык жаночыя — на **-ана, -яна**. Тыя ж Яна, Мар'яна, Дабрыяна...

Сярод забытых на Беларусі імёны Бажэна, Гражына, Вальжына... Як бы цудоўна гучэлі яны пад акорды нацыянальнага культурнага Адраджэння!

Тэма гучання, паходжання, як і тэма вяртання народу яго імёнаў, даволі шырокая тэма. Таму, спадзяюся, размова будзе прадоўжана. А гэтае кароткае пісьмо хочацца закончыць вершам:

*А пачынаецца Радзіма*
*адтуль, адкуль тваё імя.*
*З ім твае прашчуры хадзілі*
*і непрысутна — ты... ды я.*
*І забароны, і праклёны,*
*і смерць — усё было падчас...*
*Пакуль гучаць нашы імёны,*
*датуль Радзіма будзе ў нас!*

*Дарога да храма*

# Бог дапамагае тым, хто робіць добрую справу!

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ, фота аўтара**

Пра што думае чалавек, устанаўліваючы крыж на храме? Ян Аляксеевіч Якімовіч на секунду задумваецца, потым адказвае:

— Пра тое, каб ён стаяў вечна. Я падымаюся наверх, малюся і толькі потым пачынаю работу. Першы крыж на Чырвоным касцёле ў Мінску мы ўстанавілі 19 жніўня 1991 года, у дзень путчу. Уся краіна ў напружанні чакала, чым закончыцца супрацьстаянне ў Маскве, а мы рабілі сваю работу. Вечарам мне званілі знаёмыя і гаварылі: не закончыцца гэта дабром, Аляксеевіч, не рызыкуй! Але на наступны дзень, з божага блаславення, мы яе працягвалі. Інакш і быць не магло. Таму што рэстаўрацыяй храмаў я займаюся ўжо дзесяць гадоў. Мне цяпер — пяцьдзесят восем. Часам і тое баліць, і гэта. Але падымаюся наверх, чытаю малітву, прымаюся за работу — і ўсё як рукой здымае! Некалькі разоў падаў, але... ні разу ніводнай драпіны! Бог усё бачыць і дапамагае тым, хто робіць добрую справу.

Касцёл Святога Сымона і Алены знаходзіцца ў самым цэнтры Мінска, побач з нашай рэдакцыяй. Вось ужо каля года мы назіраем, як ідзе рэстаўрацыя. З дня ў дзень мітусяцца, быццам мурашкі, прыхажане, працуе будаўнічая тэхніка. Але ці такое безвоблачнае неба над яго дзесяццю крыжамі? Мы задалі некалькі пытанняў настаяцелю Чырвонага касцёла ксяндзу Завальнюку.

**— Айцец Уладзіслаў, не так даўно мітрапаліт Філарэт абвінаваціў каталіцкіх свяшчэннікаў у тым, што яны занадта актыўна праводзяць сваю работу на Беларусі, што адбываецца акаталічванне праваслаўных грамадзян рэспублікі. У той жа час народны дэпутат Беларусі Зянон Пазьняк у адной са сваіх публікацый негатыўна адазваўся і аб праваслаўнай царкве, заявіўшы, што праваслаўныя свяшчэннікі таксама не вельмі ахвотна вывучаюць беларускую мову, часам адстойваюць зусім не інтарэсы незалежнай беларускай дзяржавы. Наколькі, на вашу думку, звязана рэлігія з палітыкай, ці ўлічваеце вы ўсе гэтыя нюансы ў сваёй рабоце?**

— Ніякага ўціску ні з боку святароў іншых канфесій, ні з боку якіх-небудзь палітычных партый мы не адчуваем. У той жа час, як гаворыць Святы Павел, служачы Богу, трэба ісці наперагонкі. І ўжо людзі самі выберуць, за кім ім рушыць.

**— Сем дзесяцігоддзяў рэлігія зведвала ганенні, наш народ быў пазбаўлены магчымасці спавядаць сваю веру. Цяпер сітуацыя рэзка змянілася, вельмі многія ходзяць у цэрквы, касцёлы. Але ці так ужо шмат сярод тых, хто наведвае храмы, сапраўды веруючых?**

— Калі адказаць адкрыта, то ў храмы ходзіць вельмі мала людзей. І мы не бачым тут ніякай моды. Проста мы жывём у час выпрабаванняў. Раней людзі баяліся хадзіць у храмы. Цяпер яны атрымалі свабоду, але ўсё роўна не ідуць. Гэта вельмі трывожна. Не трэба заспакойвацца на тым, што ў час служб храмы бываюць поўнымі. У Мінску каля двух мільёнаў жыхароў, і я нават не ведаю, якая сотая доля працэнта прыходзіць з іх у царкву ці касцёл. У нашым касцёле ў нядзелю бывае каля чатырох тысяч чалавек. Што гэта ў параўнанні з усім горадам? Людзі засталіся са сваімі догмамі, са сваімі перакананнямі. У некаторых, вядома, атэістычны светапогляд, яны і раней не верылі, і цяпер працягваюць, але для большасці гэта быў, можна сказаць, экзамен, была магчымасць спазнаць тую ісціну, якую яшчэ не ведалі. Але, на жаль, яго мала хто вытрымаў.

Таму, на жаль, мы не бачым пакуль што аздараўлення нашага грамадства... Але гэта не азначае, што мы павінны сядзець склаўшы рукі. У Беларусі ўжо 245 касцёлаў, больш як 700 праваслаўных храмаў. І няхай гэтых жыватворных ручайкоў яшчэ вельмі мала, але яны дапамагаюць людзям.

19 верасня мы плануем асвяціць свой храм. Але зрабіць гэта нам будзе вельмі цяжка, таму што будматэрыялаў амаль няма. А пабудаваць мы хочам вельмі шмат. Касцёл павінен стаць сапраўдным культурным цэнтрам, тут будзе арганная зала, у якой атрымаюць магчымасць выступаць лепшыя музыканты, мы будзем праводзіць выстаўкі карцін. Мы спадзяёмся, што наш касцёл будзе такім жа, як Домскі сабор у Рызе. Таму мне хацелася б падзякаваць усім людзям, што пералічылі на рэстаўрацыю касцёла грошы, нагадаць наш рахунак у Белбізнесбанку: 200700007, код 741 (на рэстаўрацыю касцёла) і пажадаць усім грамадзянам Беларусі шчасця...

❑ *Ян Аляксеевіч Якімовіч.*
❑ *Крыжы над горадам.*
❑ *Касцёл Святога Сымона і Алены.*

